# Свабоду палітвязням!

## Бюлетэнь прысвечаны беларускім палітвязням

### Мікалай Статкевіч: Палітвязням у турмах пагражаюць згвалтаваннем



**Сталі вядомыя падрабязнасці ліста Мікалая Статкевіча, канфіскаванага пракуратурай. Інфармацыю пра яго сайт charter97.org атрымаў ад крыніц у турме Магілёва, дзе цяпер знаходзіцца палітвязень.**

**Мікалай Статкевіч** у лісце напісаў пра парадкі ў Шклоўскай калоніі, праз якую прайшлі шмат якія актывісты апазіцыі. Ён паведаміў, што ў чатырох з іх “выбівалі” згоду на прашэнне аб памілаванні, пагражаючы згвалтаваць. Палітвязень лічыць, што такім чынам адміністрацыя калоніі імкнулася хутчэй пазбавіцца ад вязняў, якія маглі распавесці пра карупцыю ў турэмнай установе.

Статкевіч таксама згадаў іншыя парушэнні закона, сведкам якіх ён стаў у калоніі. У прыватнасці, ён напісаў, што ва ўсіх вязняў вымагалі прадукты, якія яны атрымлівалі ў перадачах. Каўбаса, шакалад і цыгарэты ішлі начальніку атрада. Людзі былі вымушаныя плаціць “даніну”, бо інакш “немагчыма атрымаць умоўна-датэрміновае вызваленне”.

Пра тое, што ліст палітвязня канфіскаваны і адпраўлены ў пракуратуру, паведаміла яго жонка **Марына Адамовіч** 16 ліпеня. Яна адзначыла, што не ведае пра змест ліста, але лічыць, што мужу было пра што распавесці.

### Палажанка: будзем судзіцца супраць прафіляктычнага нагляду над Дашкевічам

**Сваякі Зьмітра Дашкевіча дамагаюцца, каб на суд у справе прафіляктычнага нагляду над палітвязьнем пасьля вызваленьня дапусьцілі ягонага абаронцу. «З адвакатам адмыслова паедзем у турму, каб гэта вырашаць», — паведаміла жонка палітвязьня Наста Дашкевіч.**

28 жніўня на волю з гарадзенскай турмы мае выйсьці лідэр «Маладога фронту» **Зьміцер Дашкевіч**. Ці прызначаць яму прафіляктычны нагляд, як гэта атрымалася з некаторымі іншымі былымі палітвязьнямі? **Наста Дашкевіч (Палажанка)** распавяла:

*«Пакуль няма пра гэта інфармацыі. Будзем рабіць усё, каб даведацца. Там сыстэма такая, што адміністрацыя турмы будзе падаваць у суд, а той будзе вырашаць. Мы будзем рабіць усё, каб на тым судзе прысутнічаў адвакат, калі такое рашэньне прымуць Зьміцер і адвакат».*

Паводле Насьціных зьвестак, Зьміцер Дашкевіч пачуваецца «нармальна, на здароўе ня скардзіцца». *«Зьміцер шмат чытае і лістуецца. У яго пазытыўны настрой»,* — паведаміла Наста Дашкевіч.

Лідэр «Маладога фронту» Зьміцер Дашкевіч адбывае ў гарадзенскай турме яшчэ год зьняволеньня, атрыманы нібыта за непадпарадкаваньне ў той час, калі заканчваў адбываць двухгадовы тэрмін зьняволеньня за хуліганства. Абодва прысуды Зьміцер Дашкевіч лічыць палітычна матываванымі.

***svaboda.org***

### Праваабаронцы прызналі Андрэя Гайдукова палітзняволеным



**Асуджэнне Андрэя Гайдукова з’яўляецца неабгрунтаваным і палітычна матываваным. Пра гэта гаворыцца ў сумеснай заяве Беларускага Хельсінкскага камітэта і закрытага ўладамі праваабарончага цэнтра “Вясна”.**

Праваабаронцы зазначаюць, што асуджэнне Гайдукова “ў значнай ступені мела на мэце павышэнне ролі і значнасці КДБ у дзяржаве непрымальнымі ў дэмакратычным грамадстве метадамі, а пазбаўленне волі было прыменена з парушэннем права на справядлівы судовы разбор, іншых правоў і свабод, гарантаваных Міжнародным пактам аб грамадзянскіх і палітычных правах, працягласць пазбаўлення волі яўна непрапарцыянальная (неадэкватная) правапарушэнню, у якім асоба была прызнаная вінаватай”.

Аўтары заявы патрабуюць неадкладна вызваліць Гайдукова, адмяніць незаконна вынесены прыгавор і перагледзець яго пры выкананні права на справядлівы судовы разбор.

Гайдукоў быў асуджаны 1 ліпеня па частцы 1 артыкула 14 і артыкуле 356 прым. Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь (замах на ўстанаўленне супрацоўніцтва са спецыяльнай службай, органам бяспекі ці разведвальным органам замежнай дзяржавы). Віцебскі абласны суд пад старшынствам Галіны Урбановіч прыгаварыў яго да паўтара года пазбаўлення волі.

Як зазначаюць праваабаронцы, крымінальны пераслед Гайдукова пачаўся ў лістападзе 2012 года, калі ён быў затрыманы супрацоўнікамі дзяржбяспекі і змешчаны ў следчы ізалятар КДБ. 13 лістапада 2012 года КДБ распаўсюдзіў інфармацыю пра спыненне супрацьпраўнай дзейнасці грамадзяніна Рэспублікі Беларусь, які займаўся па заданні замежнай разведкі зборам і перадачай інфармацыі палітычнага і эканамічнага характару. У дачыненні да затрыманага была распачата крымінальная справа па ч. 1 арт. 356 КК (здрада дзяржаве ў форме правядзення агентурнай дзейнасці). Ужо падчас судовага разбору абвінавачванне перакваліфікавалі.

Праваабаронцы таксама канстатуюць, што папярэдняе расследаванне і судовы разбор былі поўнасцю закрытымі і непразрыстымі, нягледзячы на павышаную цікавасць да гэтай справы з боку грамадскасці і СМІ.

Пры гэтым кампетэнтнымі органамі не было дадзена ніякага абгрунтавання неабходнасці разгляду справы ў закрытым судовым пасяджэнні. “З улікам таго, што Гайдукову спачатку ставілася ў віну ўчыненне больш цяжкага злачынства (арт. 356 КК — здрада дзяржаве), а ў далейшым яго дзеянні былі перакваліфікаваныя на менш цяжкае злачынства, можна меркаваць, што неабходнасць у разглядзе гэтай справы ў закрытым судовым разборы была выкліканая жаданнем утаіць ад грамадскасці незаконныя метады расследавання і правакаванне абвінавачванага да ўчынення больш цяжкага злачынства”, — сказана ў заяве.

На думку праваабаронцаў, такая кваліфікацыя ўчыненага судом паказвае, што “КДБ увёў у зман грамадскасць у той час, як супрацоўнікамі КДБ не было выяўлена факта ўстанаўлення грамадзянінам Рэспублікі Беларусь супрацьпраўнага супрацоўніцтва з органамі замежнай дзяржавы”. Пры ўстаноўленых акалічнасцях супрацоўнікі КДБ працягвалі схіляць Гайдукова да ўчынення больш цяжкага злачынства, г.зн. учынілі правакацыю, падкрэсліваецца ў заяве.

Аўтары заявы таксама зазначаюць, што падчас расследавання парушалася права Гайдукова на абарону, адвольна абмяжоўваліся яго сустрэчы з адвакатам. Кантакты са сваякамі былі абмежаваныя нерэгулярнай, жорстка цэнзураванай перапіскай. Мерай уздзеяння на адваката Гайдукова стала папярэджанне аб крымінальнай адказнасці за абвяшчэнне звестак папярэдняга расследавання.

“Гэтая мера, якая празмерна шырока прымяняецца на практыцы, сур’ёзна абмяжоўвае магчымасці адваката адстойваць інтарэсы свайго падабароннага”, — падкрэсліваецца ў заяве.

Праваабаронцы звяртаюць увагу на тое, што артыкул 356 прым. быў унесены ў КК Беларусі ў лістападзе 2011 года. “Беларускія праваабаронцы ўжо тады ўказвалі на недапушчальнасць выкарыстання ў крымінальным законе неканкрэтных азначэнняў, у тым ліку якія дапускаюць адвольнае ці расшыральнае іх тлумачэнне”, зазначаецца ў заяве.

У канцы мая 2013 года з заявы старшыні КДБ Валерыя Вакульчыка стала вядома, што крымінальная справа па абвінавачванні Гайдукова накіраваная ў суд, дзе будзе разглядажаная на закрытым судовым пасяджэнні; выстаўленае абвінавачванне не мянялася (скарочана).

***belapan.com***

Solidarity Fund PL




FRID
Fundacja Rozwoju
Inicjatyw Demokratycznych

## Станіслаў Шушкевіч: Рэжым ізалюе ад народу тых, хто за гэты народ пакутуе



**Меркаваньне пра паляпшэньне сытуацыі з правамі чалавека ў Беларусі былы старшыня Вярхоўнага Савету Беларусі Станіслаў Шушкевіч лічыць недапушчальным. Насамрэч меркаваньне, якое досыць часта можна сустрэць у СМІ абсалютна не адпавядае рэчаіснасьці.**

**Станіслаў Шушкевіч:** *Спадар Палецкіс памыляецца. Абсалютна памыляецца. На самой справе сытуацыя з правамі чалавека ў нашай краіне зусім не палепшылася, але вось сродкі прапаганды – удасканальваюцца. І ў зьвязку з гэтым любы, нават дробны і нязначны факт падаецца, як паляпшэньне сытуацыі. У нас проста недапушчальная сытуацыя з правамі чалавека, дзясятак чалавек за кратамі за свае палітычныя погляды. Адна асоба, не вельмі адукаваная, не вельмі разумеючая сучаснасьць, але вельмі нахабная, якая нічога, акрамя ўласнай ўлады не хоча мець. І гэтая асоба знаходзіць сродкі з дапамогай дзясяткаў халуёў, сотняў аплочаных супрацоўнікаў, якія і падаюць такую інфармацыю, пра паляпшэньне сытуацыі. У Беларусі няма паляпшэньня сытуацыі, няма нават нейкіх крокаў, якія сьведчылі б пра гэта.*

**- Якім чынам працуе гэта прапаганда? Ці магчыма пры факце наяўнасьці за кратамі вязьняў сумленьня пераканаць заходніх палітыкаў, грамадзян Беларусі ў адваротным?**

**Станіслаў Шушкевіч:** *Ну вось той жа Макей, ён вельмі кваліфікаваны. Па- прафэсіі ён разьведчык і таксама падае гэта ўсё дасканальным чынам, але ж гэта лукашэнкаўскі выхаванец. Ён служыць толькі выключна Лукашэнку. І з такімі асобамі ну не можа быць паляпшэньня сытуацыі з правамі чалавека. Бо гэтыя асобы, пра якіх я кажу – яны сябе ўжо пахавалі як палітыкі, якія паважаюць правы чалавека. Эўропа не павінна зь імі мець справы. Але ж ў Эўропы старая бяда, якая паўтараецца ўжо трэці раз. Спачатку Хавіер Саляна і Бэніта Фэрэра-Вальднэр прыехалі ў Менск. Тут іх абхаджвалі і пераконвалі, яны ў рэшце і заявілі, што аніякіх ўмоваў Эўропа ставіць не будзе, што сытуацыя паляпшаецца, і іх проста падманулі. Ну не чакалі цывілізаваныя палітыкі, што на ўзроўні ўлады, на ўзроўні кіраўніцтва краіны можа быць такая хлусьня, такое нахабства і такія недапушчальныя паводзіны, і цяпер сытуацыя зноў паўтараецца. Праўда, гэтым разам зьявіліся пэўныя асобы, прыкормленыя з Менску, гэта тэхнічныя асобы, якія час ад часу заяўляюць, што ў Беларусі няма палітвязьняў. Але Лукашэнка ўчыніў гандаль вязьнямі сумленьня, магчыма, што некаторых людзей вызваляць з турмы. Але ўпэўнены на сто адсоткаў, што той жа Дашкевіч ніколі не стане здраднікам таму, што гэта прыстойны чалавек з сумленьнем, малады, прыстойны. Як і астатнія апанетны кіраўніка краіны, але яны павінны ўсе быць на свабодзе. І акрамя гэтага абавязкова павінна быць не толькі вызваленьне, але і рэабілітацыя. Толькі тады можна казаць, што ёсьць нейкі зрухі ў сытуацыі на Беларусі.*

**Якім чынам магчыма зьмяніць сытуацыю з правамі чалавека. Ці здольная грамадзянская супольнасьць дамагчыся вызваленьня палітычных вязьняў ў Беларусі?**

**Станіслаў Шушкевіч:** *Супольнасьць магла б зрабіць пэўныя справы. Незалежныя сродкі масавай інфармацыі добра інфармуюць пра сытуацыю з палітвязьнямі. Але, на жаль, яны мала даходзяць да шырокіх колаў беларусаў. Таму, што гэтая масавая дзяржаўная прапаганда мае значна большы ўплыў, яна нахабна пакрывае ўсе гэтыя сродкі незалежнай масавай інфармацыі* ***(цалкам інтэрв'ю на сайце palitviazni.info).***

## Пётр Мацёнжэк: Вязьням сумленьня не выпадае спадзявацца на Расею



**Досыць часта ўзгадваецца пра салідарнасьць Эўразьвязу з палітычнымі вязьнямі ў Беларусі. А якая роля ў гэтым пытаньні з боку яшчэ аднаго найбуйнейшага суседа нашай краіны – Расеі. Пётр Мацёнжэк – эксперт у галіне энергетычнай бясьпекі і былога СССР, лічыць, што сытуацыя досыць сумная.**

**Пётр Мацёнжэк:** *Стасункі Эўразьвязу і Беларусі нагадваюць сінусоід. Спачатку Лукашэнка кідае за краты палітычных апанентаў, ствараючы палітвязьняў, "закручвае гайкі" ў краіне. А пазьней пачынае гандляваць палітычнымі вязьнямі. Бо Эўразьвяз уводзіць у адносінах да яго санкцыі. Нават нягледзячы на тое, што санкцыі не заўсёды маюць плён, з увагі на тое, што Эўразьвяз – гэта шэраг краінаў з сваімі інтарэсамі, сваімі зацікаўленьнямі. І галоўнай мэтай гэтага палітычнага гандлю людзьмі зьяўляецца спроба зьліквідаваць уведзеныя абмежаваньні, санкцыі. Пры гэтым Беларусь, прынамсі ў плане эканамічным усё больш схіляецца да інтэграцыі з Расеяй. Адбываецца прыватызацыя, праўда, фактычна за расейскі капітал. І з ўвагі на ўсё гэта для таго, каб адбыліся нейкія зьмены ў краіне – патрэбна, каб Лукашэнкі проста не стала. З пункту погляду інтарэсаў Эўразьвязу, ён не зьяўляецца карысным. Так што састуткі, якія можа зрабіць Брусэль, ці варта сказаць – шматкроць рабіў, яны без сэнсу.*

**- Але гандаль палітвязьнямі Лукашэнка надалей вядзе і мала таго, яму гэта ўдавалася?**

**Пётр Мацёнжэк:** *І нават вельмі часта ўдавалася. На полі стасункаў афіцыйнага Менску з Брусэлем шматкроць посьпех быў на баку Лукашэнкі. Нават у выпадку з Польшчай, пра якую магу сказаць болей – падчас апошняй так званай гульні, якая сапраўды пасьмяшыла польскі ўрад, што праводзіў Радаслаў Сікорскі – міністр замежных справаў Польшчы. Ён разам з Гіда Вэстэрвэльле – міністрам замежных справаў Нямеччыны наведаў Менск. Гэта было падвойнае падарожжа. Але пасьля гэтага адбылося поўнае скасаваньне стасункаў. Польшчу нават абвінавацілі ў спробе навязаць палітычную сыстэму ў Беларусі. Шмат крытыкі пасыпалася на польскія службы. А гэта ўсё сьведчыць, што такія крокі не маюць сэнсу. Нават нягледзячы на тое, што і ёсьць нейкія жэсты збоку Польшчы, ці Эўразьвязу, ўсё-роўна рана, ці позна, калі зьменіцца каньюнктура, Лукашэнка заўсёды зьменіць сваю гульню і схіліцца да Расеі. Чаму? Як ўжо і казаў, Эўразьвяз не мае адзінага цэнтру замежнай палітыкі. Праўда, ёсьць высокі прадстаўнік да справаў замежнай палітыкі Кэтрын Эштан. Але збольшага яе крокі абмяжоўваюцца толькі дэкляраціямі. А апроч гэтага досыць вялікая частка краінаў ЭЗ заінтарэсаваны перадусім у эканамічных стасунках, ў вядзеньні бізнэсу з Лукашэнкам. Тут прыклад – Славенія, Літва. Нават нягледзячы на ўведзеныя санкцыі, гэтыя краіны ўтрымліваюць высокі ўзровень эканамічных кантактаў. Праявілася гэта падчас абвешчаньня, што беларускія тавары могуць пакінуць парты літоўскія і пачнуць адгружацца ў партах расейскіх. І такіх прыкладаў досыць шмат. І тут сьпіс можна пашырыць нават такімі краінамі, якія прынцыповыя ў сваіх поглядах на правы чалавека, сярод якіх нават Нямеччына. Досыць шмат эканамічных інтарэсаў гэтай краіны ў Беларусі. І таму заўсёды зьяўляецца дылемай: інтарэс эканамічны, ці ўсё ж правы чалавека. І вось менавіта гэта спрычынілася да таго, што палітыка Эўразьвязу не мае посьпеху ў адносінах да Беларусі* ***(цалкам інтэрв'ю на сайце palitviazni.info).***

## Ірына Халіп: Свабодным чалавекам я сябе пакуль не адчуваю

**Любы былы палітвязень можа зноў трапіць за краты.**
**Такое меркаванне ў інтэрв'ю сайту charter97.org выказала журналістка Ірына Халіп пасля сённяшняга суда.**

*«Пакуль што я не адчуваю сябе свабодным чалавекам. Я яшчэ не разумею, як гэта можна – не глядзець на гадзіннік увечары, не разумею, як можна пайсці, напрыклад, у тэатр ці на канцэрт вечарам і ведаць, што нават калі спознішся пасля 22 гадзін, то нічога страшнага ў гэтым няма. Я яшчэ не разумею, як можна сесьці ў цягнік ці самалёт і кудысьці ехаць і ні ў каго не прасіць дазволу. Дэ-факта, я ўвесь гэты час знаходзілася пад хатнім арыштам, як і Уладзімір Някляеў. І калі сюды дадаць яшчэ пяцімесячную адсідку, то атрымліваецца даволі доўгі тэрмін. Яшчэ б хацелася ўсё-такі сказаць, што чалавек не можа быць свабодным, нават калі ён у дадзены момант не знаходзіцца пад арыштам ці крымінальным пераследам, таму што ўспомніце, як сустракалі Парфянкова і Яроменка, якія вярталіся з турмы свабоднымі людзьмі. Зараз Парфянкоў адседзеў і рыхтуецца зноў сесці»,* – адзначыла журналістка.

Яна падкрэсліла, што мы не можам сябе адчуваць свабоднымі фактычна, таму што дзяржаўная машына можа ўмяшацца ў кожны момант.

*«Зміцер Дашкевіч хутка выйдзе, таму што ў яго скончыцца тэрмін, але яны будуць казаць што сітуацыя палепшылася, таму што Дашкевіч выйшаў. Нельга падмяняць паняцці. Цяпер колькасць палітвязняў зноў павялічваецца. Калі мяне сёння не адправілі ў калонію, то гэта не значыць, што гэта не адбудзецца праз месяц, два, праз год па новай крымінальнай справе. Гэта не значыць, што Уладзіміра Някляева таксама адпусцяць. Усё роўна, я ні ў якое паляпшэнне не веру»,* – лічыць былая палітзняволеная.

Яна дадала, што калі ішла ў суд, то ні на што не спадзявалася.

*«За гэтыя гады я ўжо змагла выпрацаваць у сабе такую здольнасць – нічога не чакаць, нічога не планаваць. Як будзе – так будзе. У мяне ёсць пакуль што планы толькі на бліжэйшы вечар. Мы з сябрамі збіраемся сустрэцца і схадзіць вечарам у якое-небудзь кафэ і не глядзець пры гэтым на гадзіннік»,* – паведаміла Ірына Халіп.

Нагадаем, суд Партызанскага раёна Менска прыняў рашэнне вызваліць журналістку Ірыну Халіп ад крымінальнага пакарання па заканчэнні адтэрміноўкі прысуду.

16 траўня 2011 года жонка былога кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава была прысуджаная да двух гадоў пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выканання пакарання на два гады.